Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ФРАНЦЫЯ — ГЛЫБОКІ КРЫЗІС

Падзеі апошніх тыдняў у Францыі сведчаць аб глыбокім палітычным крызісе. Некаторыя тое, што дзеецца ў Францыі, называюць крызісам V Рэспублікі або галізму.

Аб памерах крызісу хай сведчыць факт, што ў Францыі налічвалася больш 9 мільёнаў страйкуючых, што застрайкавалі тут нават працаўнікі Банка Францыі, аэрадромы не прыймалі пасажырскіх самалётаў, была перарвана сувязь Парыжа са светам.

Многа яшчэ будзе каментарыяў аб майскіх днях Францыі, аднак хочацца падкрэсліць велізарную спеласць і самадысцыпліну рабочага класа Францыі, які не мяшаўся ў вулічныя бойкі, арганізаваныя хуліганскімі элементамі, але стаў на барацьбу за свае эканамічныя і сацыяльныя правы.

На колькі паважная сітуацыя ў Францыі, сведчаць выступленні і размовы прадстаўнікоў дзяржавы і ўрада. Прэзідэнт дэ Голь, які скараціў свой візіт у Румыніі, заявіў: «Рэформы — так, хваляванні — не». Урад Пампіду пакуль што ўтрымаўся ў час галасавання над вотум давер'я, атрымліваючы большасць толькі 12-цю галасамі. Прэзідэнт дэ Голь запрапанаваў правядзенне рэформаў, а таксама выразіў гатоўнасць да перагавораў. Такія перагаворы пачаліся ў мінулую суботу між урадам і прадстаўнікамі найвялікшых прафсаюзных арганізацый. Але рабочыя спыняць страйк, калі ўрад згодзіцца на іншыя жаданні: як, напр., выплата зарабаткаў за час страйку, закон аб свабоднай дзейнасці прафсаюзаў і інш. Дэ Голь сказаў, што ў чэрвені г.г. адбудзецца рэферэндум. Справа настолькі няясная, што дэ Голь не высоўвае ніякай канкрэтнай праграмы, за якую мог бы выказацца народ, а стаўляе сябе як асобу, якой народ павінен выказаць (ці не) давер'е.

### ВЫБАРЫ...

...у Італіі яшчэ раз даказалі аб сіле Камуністычнай партыі Італіі, за якую галасавала на некалькі мільёнаў больш выбаршчыкаў, чым у папярэдніх выбарах. Італьянскія сацыялісты патрацілі галасы. Гэта адзін з доказаў, што ў Італіі неабходныя рэформы.

### УСТУПНЫЯ РАЗМОВЫ...

...у Парыжы між прадстаўнікамі ДРВ і ЗША не пасунуліся наперад. ЗША выкручваюцца ў адказ на прапанову ДРВ спыніць налёты на ДРВ. Зрэшты, зварот Джонсана аб прызнанні 4 мільярдаў долараў для падтрымкі аперацыі ў В'етнаме напэўна не спрыяе вядзенню перагавораў.

### ПАБЛО НЯРУДА...

... — слаўны чылійскі паэт адмовіўся прыняць дыпломы і ганаровыя адзнакі Амерыканскай акадэміі і Нацыянальнага Інстытута Мастацтва і Літаратуры ЗША, якія яму меў уручыць пасол ЗША ў Сант'ята. Абедзве ўстановы выбралі, некалькі месяцаў таму, Няруду сваім ганаровым членам. Паэт зрабіў гэта на знак пратэсту супраць агрэсіі ЗША ў В'етнаме. А.К.

## БССР

### НАРАДА

У Мінску адбылася трэцяя Усесаюзная нарада па цёпла- і масаабмену. У нарадзе прынялі ўдзел больш як 1.200 навуковых і інжынерна-тэхнічных работнікаў усіх асноўных арганізацый Саюза ССР, якія займаюцца гэтай праблемай. Да гэтай нарады праявілі таксама значную цікавасць даследчыкі з многіх еўрапейскіх краін, ЗША, Японіі і Індыі.

Абмеркавана 503 даклады і паведамленні.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя — «Карл Маркс аб праблемах чалавека і сучаснасць».

### УСЕСАЮЗНЫ

Адбыўся Усесаюзны Фестываль майстроў試 опернага і балетнага мастацтва, прысвечаны 50-годдзю БССР. Выступалі выдатныя майстры сцэны, адбыліся шматлікія сустрэчы артыстаў з працоўнымі беларускай сталіцы.

### БЕЛАРУСІ

Беларускі друк паведамляе аб сустрэчы міністра геалогіі Саюза ССР, акадэміка А. В. Сідарэнкі з савецкімі і замежнымі журналістамі. Гаворачы пра багацці Беларусі, міністр адзначыў, што яна багата карыснымі выкапнямі. Тут ёсць граніт, крэйда, будаўнічы і шкляны пясок, калійная і харчовая соль. Але самае галоўнае — Беларусь мае нафту. Перспектыўныя і выяўленыя запасы нафты Прыпяцкай упадзіны — Рэчыцкага, Асташкавіцкага, Цішкаўскага, Давыдаўскага, Шацілкаўскага месцанараджэнняў, на базе якіх развіваецца нафтаздабываючая прамысловасць рэспублікі, забяспечыць да канца 1970 года здабычу некалькіх мільёнаў тон «чорнага золата» ў год.

### ПЕРШАЯ

Адбылася Першая рэспубліканская выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асаблівую цікавасць выклікаў раздзел шкла.

### ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Вітальд Івановскі, карэспандэнт цэнтральнай «Звязды», друкуе падрабязныя рэляцыі аб фестывалю беларускага мастацтва на Гродзеншчыне, прысвечанага 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі.

### МАЎР

Выдатны беларускі дзіцячы пісьменнік **Янка Маўр** за заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Адначасова пісьменнік атрымаў пасведчанне заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

### ПРЭМІЙ

Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ прыняў пастанову аб устанаўленні ў сувязі з 50-годдзем рэспублікі, Кампартыі Беларусі і ВЛКСМ прэмій імя Ленінскага камсамола Беларусі за лепшыя творы літаратуры і мастацтва аб камсамоле і моладзі Беларусі. Устаноўлена пяць прэмій па тысячы рублёў кожная.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### РОЛЯ РАБОЧЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

24—25 мая адбылося пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў (ЦРЗЗ), прысвечанае абмяркоўцы заданняў прафсаюзаў і рабочага самакіравання ў павышэнні эфектыўнасці гаспадаравання ў прадпрыемствах. З дакладам на пленуме выступіў старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў Ігнацы Лёга-Савіньскі. Правёў ён аналіз дагэтуляшніх вынікаў перадз'ездаўскіх абавязацельстваў, агульнага прадукцыйнага ўздыму, які агарнуў увесь рабочы клас і палітычнай вымовы гэтага ўздыму. Лёга-Савіньскі асудзіў рэакцыйныя сілы, якія выступаючы пад ашуканчымі лозунгамі пашырэння дэмакратыі. хочуць знішчыць дасягненні працоўных мас у іх сацыялістычным будаўніцтве. **«Гісторыя не ведае,** — заявіў прамоўца, — **абстрактнай надкласавай дэмакратыі. Кожная дэмакратыя прадстаўляе сабой заўсёды акрэслены класавы змест».** Фармальная палітычная дэмакратыя нічога не дае працоўным масам, калі існуе эканамічная няроўнасць. Сацыялізм ліквідуе эканамічную няроўнасць, і ўлада дыктатуры пралетарыята з'яўляецца найвышэйшай формай дэмакратыі.

Далей дакладчык ацаніў ролю рабочага самакіравання ў сістэме сацыялістычнай дэмакратыі і ў супрацоўніцтве з адміністрацыяй у галіне павышэння прадукцыйнасці і гаспадарлівасці прадпрыемстваў.

### СУПРАЦЬ ІДЭАЛАГІЧНАЙ ДЫВЕРСІІ

25 мая адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя партыі ў прадпрыемстве імя Сврарчэўскага ў Варшаве, у якой прыняў між іншым удзел Старшыня Рады Дзяржавы Мар'ян Спыхальскі. У сваім выступленні на гэтай канферэнцыі падкрэсліў ён неабходнасць актыўнага супрацьдзеяння ідэалагічнай дыверсіі, якую вядуць імперыялістычныя ворагі Народнай Польшчы. Шмат увагі старшыня Рады Дзяржавы прысвяціў праблемам выхаваўчай дзейнасці сярод моладзі на вышэйшых навучальных установах і ў прадукцыйных прадпрыемствах. Указаў ён на неабходнасць ажыўлення дзейнасці і партыйных арганізацый у сярэдніх і вышэйшых школах, на неабходнасць фармавання мацнейшай сувязі студэнцкай моладзі з рабочым класам. Затым тав. М. Спыхальскі выказаў патрэбу ідэйна-выхаваўчай працы сярод саміх членаў партыі ў напрамку павышэння іх актыўнасці і заангажаванасці ў праблемы ўсяе краіны, а таксама ў напрамку лепшай іх падрыхтоўкі да барацьбы з ідэалагічнай дыверсіяй імперыялізму.

### ВЫШЭЙШЫЯ НАВУКОВЫЯ ЎСТАНОВЫ

Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва падрыхтавала праект новага закона аб вышэйшым школьніцтве. У праекце значна мацней, чым дагэтуль, падкрэсліваецца роля акадэмічнага школьніцтва ў грамадска-палітычным выхаванні маладога пакалення. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ

27 мая г. г. адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП. Удзельнікі пленума абмяркоўвалі актуальныя праблемы палітычнай дзейнасці партыйных арганізацый Беласточчыны.

### ДРУКАРЫ

Без іх не маглі б мы выдаваць нашую газету. У друкаванні тыднёвіка «Ніва» перш за ўсё ўдзельнічаюць: лінатыпістка Вера Попаў, наборшчык Антон Матыс, а хімічнай фотаапрацоўкай займаецца Сяргей Грынявіцкі. Успамінаем пра іх з нагоды «Дня друкара», які ў мінулым тыдні разам з друкарамі ўсёй краіны адзначалі і беластоцкія друкары.

### БАГУШЫ

Вёска Багушы знаходзіцца ў Граеўскім павеце. Праславілі яе гітлераўцы сваімі зверствамі. У лесе пад Багушамі знаходзіўся нямецкі лагер для ваеннапалонных. Былі там палякі, рускія, беларусы, італьянцы і другія. Пасля вайны ўстаноўлена, што ў брацкіх магілах пад вёскай Багушы пакоіцца каля 30 тыс. расстраляных і замучаных голадам ваеннапалонных. Пакутніцтва іх будзе ўвекавечана менументальным помнікам.

### ВОЙСКА

Афіцэры і салдаты Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай аховы 24 мая ўрачыста адзначалі 23-ую гадавіну свайго існавання. З гэтай нагоды прыпамінаем, што салдаты гэтай ваеннай часці грамадскім чынам між іншым пабудавалі дзве школы: у вёсцы Златарыя і Радулях. 26 мая адбылася ўрачыстая прысяга навабранцаў.

### САВЕЦКАЯ ПЕСНЯ

Агульнапольскія фестывалі савецкай песні адбываюцца ў Зялёнай Гуры. Беластоцкае ваяводства будуць там сёлета прадстаўляць Аня Куроўская з электрычнага тэхнікума ў Беластоку і салдат Генрык Владарчык. Прыпомнім, што калісьці пераможніцай на гэтым фестывалі была вядомая нам Любка Томчык.

### ШКОЛЫ

Жыхары вёскі Юравец у Беластоцкім павеце грамадскім чынам пабудавалі новую школу. Як кажуць, найбольш пры гэтай пабудове напрацаваліся старшыня грамадскага камітэта пабудовы школы селянін Вашчук і кіраўнік школы Данута Таполян.

### ПРЫВІЛЕЯ

Згодна з дагаворам, які падпісалі міністр будаўніцтва М. Алявінскі і міністр лясніцтва Р. Гесінг, гайнаўскія прадпрыемствы — хімічная фабрыка і дрэваапрацоўчы камбінат — атрымалі прывілею ў галіне разбудовы сваіх прадпрыемстваў. Новым капіталаўкладанням на гэтых прадпрыемствах запэўнены правы першынства.

### СА СПОРТУ

У Беластоку разыгралі баксёрскі матч спартыўныя каманды Беласток — Гвардыя і Югаслаўская — Радніцкі. Матч закончыўся перамогай з лікам 11:9 югаслаўскіх гасцей. (вр)




**NIEDZIELA, 2.VI.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Choroby drzew owocowych". 9.40 „Przypominamy, radzimy". 9.50 Dla dzieci i młodych widzów: „Król Maciuś I" — film fab. pol. 11.20 PKF. 11.30 „Wieś na przełomie" — film pol. 11.45 Dziennik. 11.55 „Bawcie się z nami" — występy zespołów amatorskich. 12.25 „Enrico Caruzo" — film biograficzny wł. 14.10 „Przemiany". 14.40 „Legendarna wieża" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 15.05 TV Teatr Lalek: H. Januszewska — „Krzesiwo". 16.05 „Kamera 68". 16.15 „Piórkiem i węglem". 16.35 „Animalia" — program z Poznańskiego ZOO. 17.20 „Kowal" („Ludzie i zdarzenia"). 17.35 Teatr TV. G. B. Shaw — „Lord August spełnia swój obowiązek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Krakowski Rynek" — wodewil T. Kwiatkowskiego. 21.05 „Listek figowy" — film fab. węg. 22.30 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 3.VI.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.35 „Medale i detale". 17.55 „Sylwetka malarza" — film bułg. 18.10 „Eureka". 18.40 „Kino Krótkich Filmów". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: S. Grochowiak — „Nokturn" wg noweli K. Paustowskiego „Deszczowy świt". 21.05 „O czyste powietrze". 21.30 „Kapela" — rep. filmowy. 21.55 Dziennik.

**WTOREK, 4.VI.**

8.40 „Lizzie, gola!?" — film fab. USA. 10.00 Dla szkół (kl. I) „Na drogach i szosach". 10.15 Przerwa. 11.00 Dla szkół (kl. IV) „Tam gdzie rosną winogrona". 11.20 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II) „Koledzy z dalekich krajów". 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Ocena i selekcja zwierząt". 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „To niedaleko" — gawęda turystyczna. 17.20 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę". 18.00 „Dzień solidarności z Wietnamem". 18.45 „Nie tylko dla pań". 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda piosenki". 20.35 „Ludzie z Hemso" — film fab. szw. 22.20 Dziennik.

**SRODA, 5.VI.**

9.05 „Samotność" — film („Alfred Hitchcock przedstawia"). 9.55 Dla szkół (kl. VI) „Ciepło i jego skutki". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Miejsce Polski w świecie 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka: „Energia ciągle potrzebna". 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka". 17.20 „Pajacyk Pikuś i Księżyc" — film pol. 17.30 „Telekram". 17.45 „Gawędy muzyczne" prof. S. Śledzińskiego („Historia muzyki"). 18.15 „Od Leningradu do Rostowa" — film TV radz. 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Imię" — rep. filmowy. 20.25 PKF. 20.35 „Samotność" — film („Alfred Hitchcock przedstawia"). 21.20 „Światowid". 22.00 „Melodie gór" — Filmowy program rozrywkowy radz. 22.20 Dziennik.

**CZWARTEK, 6.VI.**

10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: „Od cechowego mistrza do robotnika fabrycznego". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: „Król Kazimierz i jego dzieło". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Język polski: „Ernest Hemingway". 13.15 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 23.05 Politechnika TV II roku. 16.40 Dla dzieci: „Pajacyk Pikuś" — film pol. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.20 „Na morskich szlakach". 18.45 „Śpiewnik domowy" St. Moniuszki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pod znakiem jakości". 20.35 „Doborowe towarzystwo" — film fab. fr. 22.15 Magazyn Medyczny. 22.45 Dziennik.

**PIĄTEK, 7.VI.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Przed letnimi wyprawami". 10.25 „Jest taki chłopak" — film fab. radz. 12.05 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Odbiornik detektorowy". 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.10 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.30 „OZOS" na wszystkie drogi" — rep. z Olsztyńskiej Fabr. Opon Samochodowych w Olsztynie. 18.15 Wszechnica TV: „Polskie diamenty" („W pracowniach polskich uczonych"). 18.45 „Grają i śpiewają Skaldowie". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dzień w Popielnie" — rep. filmowy. 20.25 Teatr TV: „Wieczory z Conradem" (wieczór III). 21.25 „10 minut recenzji". 21.35 „Skarb Astrachania" — rep. filmowy („Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego"). 21.50 Dziennik.

**SOBOTA, 8.VI.**

9.05 „Cienie przeszłości" — film fab. fr. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Odpowiadamy na listy". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: „Wybrzeże Bałtyku". 12.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 TV Kurs Rolniczy: „Szkodniki drzew owocowych". 16.05 Program Tygodnia. 16.30 Sprawozdanie sportowe. 18.00 Dziennik. 18.05 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 18.50 „Gawędy wilków morskich". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.15 IV Festiwal Piosenki Radzieckiej — koncert laureatów. 22.15 Dziennik. 22.00 Wiadomości Sportowe. 22.10 „Cienie przeszłości" — film fab. fr.




**Piątek, 31 maja**

15.00 Nowości. 15.05 Program dnia. 15.10 „Dla dzieci do 16..." 15.50 „Pierwsze kroki sportu białoruskiego". 16.05 O centralnym archiwum BSRR. 16.30 „Horyzonty pięciolatki". 17.00 „Sztuka Teatru Wielkiego". 18.30 Sztafeta nowości. 19.30 Ekran i czas. 20.30 „Udział w zabójstwie". Spektakl TV. Część II. 21.25 „5+2". 21.50 Na dobranoc.

**Sobota, 1 czerwca**

11.50 Sztuka muzyczna narodów ZSRR. 12.25 Filmy TV dla dzieci. 12.40 Szkatułka muzyczna. 13.00 Program poświęcony Dniu Dziecka. 13.30 Teatr TV dla dzieci. 14.45 TV barwna. 16.15 Klub Filmowy. 17.15 Film krótkometrażowy. 17.30 W świecie nauki. 17.55 Piłka nożna: „Dynamo" (Mińsk) — „Czornamorec" (Odessa). 18.45 Po ojczystej ziemi. 19.00 „Jubileusz malarza" (W. Waśniecow). 19.15 Klub miłośników piosenki. 20.15 Teatr literacki. 21.15 Dziennik. 21.30 Program dnia. 21.35 Sala tańców.

**Niedziela, 2 czerwca**

7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik. 8.00 Dla uczniów. 8.30 Reportaż z wystawy. 9.00 Dla dzieci. 10.30 Dla żołnierzy. 11.00 „W świecie sztuki". 11.30 „Dla was, kobiety". 12.00 „Okrągły rok". 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 Koncert uczniów. 13.40 „TV atlas narodów ZSRR". 14.20 TV barwna. 16.00 „Białe i czarne". 16.20 Śpiewa A. Aleksandrowicz. 17.00 „Sprawa Timy Rynelta". Film TV. 18.45 „Siedem dni". 19.30 Wieczór Leningradzkiego Teatru Komedii Muzycznej". 21.00 „Tylko fakty".

 




**Таварыства прыяцеляў Белавежы** праводзіць агромную папулярызатарскую працу. Гэтая праца ахоплівае як бы дзве дзялянкі. 1) усё аб Белавежы і 2) свет вакол нас. Хопіць сказаць, што ў год Таварыства праводзіць 70-80 рознага роду мерапрыемстваў.

Адно з іх, выстаўка малюнкаў дзяцей з Гайнаўкі і Нараўкі п. з. «Зубр у вачах дзіцяці», адбылося нядаўна ў памяшканні пачатковай школы **ў Белавежы.** Ініцыятыва арганізацыі выстаўкі выйшла ад ТПД, а сярод моладзі распрапагаваў гайнаўскі настаўнік **Ю. Айжаноўскі.** Пры арганізацыі выстаўкі арганізатарам дапамагала моладзь белавежскай СПР. Куратарам выстаўкі быў **дац. др Здзіслаў Пуцэк з Белавежскага інстытута млекакормячых ПАН.**

Калі я наведаў Белавежу, выстаўка ўжо была знята, але працы вучняў яшчэ не вярнуліся да іх аўтараў. Пераглядаў я іх усе і любаваўся свежасцю графікі і разнастайнасцю форм. Сярод прац малюнкі акварэлей, алоўкам, выклееныя з паперы, палатна, выразаныя з дрэва, зробленыя са шкла.

Зараз працы вучняў у **мгра Тадэуша Бухгальчыка,** навуковага работніка Інстытута, які праводзіць параўнанні над характэрнымі анатамічнымі рысамі зубра, паказанымі ў працах, а рэчаіснасцю. Вынік даследаў прыблізна такі, што частка зуброў паказаных дзяцьмі падобная да свіней, дзікаў, кароў, сланоў, мядзведзяў. Зубры ў вачах дзяцей пераважна больш масіўныя чым сапраўды выглядаюць. Міма рознага «падабенства» зуброў, **няма тут прац не арыгінальных.**

**Мгр Федык,** навуковы работнік Інстытута, з'яўляецца аматарам-мастаком, і таму я папрасіў яго аб кароценькую ацэнку выстаўкі з мастацкага а нават выхаваўчага боку. Вось што ён мне сказаў:

— Ва ўсіх працах дзяцей адчуваецца мастацкую зрэласць, арыгінальнасць, багацце форм. Адчуваецца, што назіралі яны за агромнымі звярыма. Смела сцвярджаю, што многа ёсць прац на высокім мастацкім узроўні. Гаворачы аб мастацтве, нельга прамінуць выхаваўчага боку. У працах адчуваецца пэўную мэтанакіраванасць дзяцей, але яна не накінута дзіцяці, і гэта вельмі важна. Напрыклад, паляванні на зубра паказаны выключна ў гістарычным аспекце...

Ад сябе хочацца дадаць, што маладыя назіральнікі, хіба як мала хто з дарослых, адлюстравалі разам з зубром гінуўшую пушчу, што з'яўляецца не абыякавым выхаваўчым аспектам.

Ініцыятыва вельмі цікавая і карысная. Трэба мець надзею, што хіба яна не апошняя.

**А. Лабановіч**







# Беларуская кніжка ў БІБЛІЯТЭКАХ

**(паводле дадзеных Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку)**

Публічныя бібліятэкі ў Беластоцкім ваяводстве маюць разам 14.126 тамоў кніжак на беларускай мове. 56% з гэтага прыпадае на мастацкую літаратуру для дарослых. 34% — літаратура для дзяцей, 8% — уся іншая (грамадска-палітычная, папулярна-навуковая, падручнікі і г.д.) Малы працэнт мае немастацкая літаратура. Факт такі бібліятэка тлумачыць тым, што на кніжным рынку няма цікавай немастацкай беларускай літаратуры, а таксама і мова папулярна-навуковай літаратуры на беларускай мове даволі не зразумела нашаму чытачу. Бібліятэкі грамадскія і павятовыя таму не заказваюць папулярна-навуковай літаратуры на беларускай мове.

На аднаго чытача (гаворым аб чытачах беларускіх кніжак) прыпадала ў 1967 годзе 4,3 кніжкі (сярэдняя ваяводская 7,4 кніжкі).

Найніжэйшы паказальнік у Бельскім павеце — 2,5, найвышэйшы ў Сакольскім — 10.

У 1967 годзе Ваяводская бібліятэка дакупіла 1340 беларускіх кніжак, а ў першым квартале 1968 года — далейшых 218 тамоў.

На канец 1967 года ў бібліятэках з беларускімі чытачамі было тых чытачоў 3.477. У параўнанні да 1966 года больш на 494 чытачы. Узрост наступіў ва ўсіх бібліятэках найбольш у гайнаўскіх — 386 чытачоў. Узрост Ваяводская бібліятэка прыпісвае перш за ўсё конкурсу «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача».

На той жа канец 1967 года пазычалі чытачы беларускіх кніжак 18.473 разы. У параўнанні з годам папярэднім больш на 4.659.

Сярэдняя на аднаго чытача выпадае 3 кніжкі. (Ваяводская сярэдняя 16,95 кніжкі).

Формы прапаганды беларускай кніжкі падобныя як і ўвогуле чытальніцтва кожнай кніжкі. Гэта: выстаўкі навінак, галоснае чытанне, дыскусіі, рэцытатарскія вечары, вечары казак для дзяцей, конкурсы, аўтарскія сустрэчы. Шырокую прапаганду беларускай літаратуры падняла Ваяводская бібліятэка супольна з рэдакцыяй «Нівы» ў рамах вышэй успомненага конкурсу«Беларуская кніжка ў руках масавага чытача». (Падобны конкурс плануецца ў будучыні).

Добрую працу праводзяць аддзелы Беларускага таварыства, навучаючы людзей на многіх курсах і лектаратах літаратурнай беларускай мове. Слаба аднак дзейнічаюць у гэтым напрамку гурткі таварыства, дзеячы якіх самі часта не ведаюць і не чытаюць беларускай літаратуры. (вл)

# Выконваюць конкурсныя заданні

У камэндзе гуфца ЗГП у **Бельску** нас паінфармавана, што да дарожнага конкурсу **«Пазбягайма нешчаслівых выпадкаў сярод дзяцей і моладзі» прыступіла 42 школы.**

Найбольш папулярным заданнем, якое рэалізуюць школы і дружыны ЗГП, ёсць гутаркі і лекцыі на тэму бяспекі дарожнага руху. Перш за ўсё праводзяць іх дружыновыя, настаўнікі, але не толькі. Вельмі частымі гасцьмі сярод школьнікаў бываюць: намеснік каменданта гуфца **Яўген Зіневіч,** інспектар дарожнага руху МО паручнік **Аляксандр Кулеша** і міліцыянеры.

Вельмі атракцыйнай формай працы з'яўляюцца конкурсы, якія арганізуе ЗГП, КП МО і Аддзел камунікацыі, на веданне правіл дарожнага руху. Адбыліся яны ўжо ў 12-ці школах. Хто з вучняў праявіць добрае знаёмства правіл дарожнага руху, той атрымоўвае легітымацыю, якая ўпаўнамочвае да кіравання веласіпедам, мотапедам і да кантраляванія на дарогах школьнай моладзі. Ужо ўручана каля 250 такіх легітымацый.

Асаблівае заангажаванне ў конкурсе, як і ва ўсіх пачынаннях звязаных з бяспекай дзяцей на дарогах, выказваюць такія пачатковыя школы як: **№ 3 у Бельску** (беларуская) у **Браньску, школа № 2 у Бельску, у Алендах і Лубіне Касцельным.**

Нам здаецца, што ў Бельскім трэба было б яшчэ ў большай ступені насіліць візуальныя заданні конкурсу, як: выконванне сценгазет, таблічак да вазоў бацькам ці дарожных знакаў на школьных пляцах. Тады конкурс будзе яшчэ больш багатым і атракцыйным. (ак)

## СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ

### Пад месяцам і звёздамі

У рамках нашай акцыі з «Грамадай» «Сядайце, едзем» адбудуцца ў чэрвені незвычайныя тэатральныя спектаклі «Рамэа і Джульеты» Шэкспіра пад... голым небам вечаровым.

Навіна гэтая —першая ў ваяводстве, проста казачная. Адзін спектакль Беластоцкага тэатра Вянгеркі купілі Ваяводская спажывецкая спулдзельня для Ломжы, другі пройдзе ў Алецку пад лозунгам «Людзі бліжэй тэатра».

### «Грамада» змяніла адрас

Ваяводскі аддзел Агульнакраёвай спулдзельні турыстычнай «Грамада» ў Беластоку змяніла адрас. Новая сядзіба «Грамады» знаходзіцца: **Беласток, вул. Сянкевіча 40.** Прасторна тут і прыгожа. Дырэктар Лешэк Каралеўскі запрашае.

(вл)

# З Тапоркаў усюды далёка

У вёсцы ўсяго каля 60 гаспадароў. Называецца вёска Тапоркі і распалажана на ўскраінах Гайнаўскага павета. З вёскі ўсюды далёка: да аўтобуснага прыстанку некалькі кіламетраў, да чыгункі — аж 9, да Кляшчэляў — 9. а да Бельска яшчэ далей. У самой вёсцы аднак прыгожа — з аднаго боку лес, з другога лугі і сенажаці, у вёсцы многа дрэў ды зелені.

Размаўляю з кіраўнічкаю мясцовага клуба «Руху», маладой дзяўчынай Надзяй Краўчук. Надзя даўжэйшы час жыла ў Беластоку. Памагала для сястры, якая працавала ў Фастах, пільнаваць дзіцё ды весці хатнюю гаспадарку. У родную вёску вярнулася толькі некалькі месяцаў таму назад.

— Дзе лепш жыць: у Беластоку, ці ў Тапорках? — пытаю Надзю.

— У Тапорках лепш, — адказвае скромна Надзя. — Весялей.

Здзіўляюся крыху. Моладзь найчасцей дае зусім іншыя адказы. Дзяўчына паясняе: тут у вёсцы ўсе знаёмыя, а перш за ўсё моладзь, ды прырода, як на курорце. Кіраўнічкай клуба Надзя ўсяго некалькі месяцаў — ад сакавіка гэтага года.

У вёсцы якраз рабочы час — пасадка бульбы і да самага змяркання ў клубе няма, калі не лічыць нас, жывой душы. І так штодзень. Народ пачынае зыходзіцца толькі на змроку. Перш за ўсё ўлятае сюды дзетварня. Усе як адзін купляюць па «лізаку», ды рассеўшыся ў кутку хіхочуць чагосьці. Потым прыходзіць моладзь, купляюць па бутэльцы ліманаду, п'юць проста з бутэлек, жартуючы паміж сабою. Ліманад тут адзіны напітак. Піва няма, а кавы народ піць яшчэ не прызвычаіўся.

У тыдзень разыходзіцца ў Тапорках каля 500 бутэлек ліманаду.

Калі ўжо добра сцямнее, цягнуцца ў тапоркаўскі клуб адзін за другім старэйшыя гаспадары. Клуб стаўся ў вёсцы проста звычкаю. Раней гаспадары пасля працы ішлі адзін да другога, або сядалі на лавах перад хатамі, зараз ідуць у клуб. Разгошчваюцца гаспадары ў клубе па-рознаму: хто, купіўшы пачку папяросаў, копціць углядаючыся ў экран тэлевізара, хто гуляе ў шашкі, хто, проста звесіўшы галаву, дрэмле сном справядлівых.

І так больш-менш штодзень. Кіраўнічка мае сякі-такі ўторг з ліманаду. папяросаў, «лізакаў» ды мыла. Іншых рэчаў людзі не купляюць. Газет прыходзіць у клуб усяго па адным экземпляры і тыя не раскупоўваюцца. Кніжкі стаяць на полках непарушаныя ад часу заснавання клуба — ніхто не цікавіцца. З культурных вартасцей сапраўдным зацікаўленнем цешыцца толькі тэлевізар. Людзі аглядаюць перш за ўсё дзённікі ды фільмы. Старэйшыя — фільмы савецкія, моладзь — каўбойскія, дзе многа страляніны.

Моладзь у тапаркоўскім клубе не толькі аднак жартуе ды смяецца. Члены мастацкага гуртка рыхтуюцца да выступлення з п'есай ды з папулярнымі ў вёсцы песнямі. Калі тэлевізар не перашкаджае, мясцовыя дзяўчаты спяваюць у клубе старыя рускія рамансы, так як спявалася іх дваццаць ці сорак год таму назад. Спяваюць галасна і прыгожа, прабуючы канкураваць з тэлевізарам і плывучымі з яго моднымі песнямі. Ці на доўга аднак хопіць ім сіл і ахвоты на такую канкурэнцыю?

Так ці інакш клуб у Тапорках стаўся неадлучным элементам вясковага жыцця. Прысутнасць у клубе пасляхова заступае даўнія суседскія сустрэчы да вечарыны. І існуе ён тут перш за ўсё для гэтых сустрэч ды вечарын у традыцыйным вясковым стылі. Гэта проста месца, дзе можна паспяваць, пасмяяцца, паразмаўляць з суседзямі, а нават здрамнуць з гадзінку пад гукі мілага клубнага гоману.

Гаспадары моцна адчуваюць патрэбу такога месца ў вёсцы. Сведчыць аб гэтым увага і дбайнасць сялян з Тапаркоў аб свой клуб. Будынак, у якім знаходзіцца клуб, купілі яны амаль за свае грошы ад гаспадара, які пакінуў Тапоркі. Адрамантавалі яго ў грамадскім чыне ды за ўласныя грошы купілі тэлевізар. П'юць цяпер тут бутэлька за бутэлькаю халодны ліманад, аглядаюць тэлевізар і абмяркоўваюць свае суседскія справы.

**Ул. Паўлючук**



 

 

# ШКОЛА — ЦЭНТР КУЛЬТУРЫ

У Новым Востраве няма ні святліцы, ні клуба-кавярні, ні рамізы стражацкай. Няма ніякага памяшкання, у якім моладзь і старэйшыя маглі б час ад часу сабрацца, пагаварыць аб сваім жыцці-быцці, аб хвалюючых справах. Тут такім месцам з'яўляецца школа. Дзякуючы настаўнікам васьмікласнай школы (а перш за ўсё кіраўнічцы Эдыце Рынкоўскай), якія належна разумеюць сітуацыю вёскі, і таму ствараюць усе магчымасці і многа памагаюць, каб школа была цэнтрам культуры. І гэтую ролю школа спаўняе. Тут моладзь вёскі збіраецца, арганізуе вечарыны, праводзіць пры дапамозе настаўнікаў рэпетыцыі пастановак, выступае з імі і г.д. Ды сама школа займаецца культурнай дзейнасцю. У школе існуе харавая група з добрымі салістамі. Спеву вучыць настаўніца Мар'я Грэнда. Асноўным звяном яе з'яўляюцца вучні 7-га і 8-га класаў. А такія школьнікі ўжо, як дарослыя людзі. Ім па 14—15 а некаторым і па 16 год. Сёння яны ў школе, а заўтра папоўняць рады моладзі. І важна тое, што яны са школы выносяць любоў да песні, да мастацкага слова, да аматарскага руху.

Добра ў школе развіваецца спорт. Выкладчыцай спартыўных заняткаў з'яўляецца кіраўнічка школы, Эдыта Рынкоўская. Нядрэнна працуе таксама гурток Таварыства польска-савецкай дружбы пад кіраўніцтвам настаўніцы Веры Малішэўскай. Да гэтага гуртка належаць вучні 5-6-7 і 8-га класаў. Школьнікі вучацца савецкіх песень, арганізуюць вечары савецкай паэзіі і гутаркі аб Савецкім Саюзе. Дзейнасць школы ў Новым Востраве вельмі цікавая. На гармонію працы навучна-выхаваўчай ролі школы не малы ўплыў мае супрацоўніцтва настаўнікаў, дакладней кажучы — настаўніц. Тут настаўніцамі працуюць маладыя дзяўчаты, у якіх многа энергіі, ініцыятывы і ахвярнасці.

**М. Хмялеўскі**
фота аўтара



**Школьны дуэт. Спявае Аляксандра Грыц і Бася Казімеровіч. Іграе Мікалай Бойгуз.**



**Памятная здымка з 7-га і 8-га класаў. На адным крэсле сядзяць настаўніцы Вера Малішэўская і Мар'я Грэнда.**



**Кіраўнічка школы Эдыта Рынкоўская (яна вядзе фізкультуру) тлумачыць Эдварду Лукашэвічу і Чэславу Малішэўскаму, як скакаць праз казёл.**

# ЧЫМ МЫ БАГАТЫ?

Прадстаўнікі грамадскасці Беластоцкага ваяводства — радныя Ваяводскай рады народовай — якія 29 красавіка г.г. сабраліся ў Беластоку на XVI звычайную сесію, падвялі вынікі па выкананню плана гаспадарчага развіцця Беласточчыны за мінулы год. Разгледзелі, значыць, усё гэтае, чым мы багаты.

Чым мы тады багаты на нашай беднай Беласточчыне?

Агульна кажучы, мінулы 1967 год быў годам спрыяльным для нашай гаспадаркі. А гэта перш за ўсё таму, што:

— Дзяржаўная і спулдзельчая прамысловасць свае планавыя заданні перавыканала на амаль 2 працэнты. Гэта абазначае, што рознага роду прадпрыемствы нашага ваяводства выпусцілі на рынак звыш плана тавару вартасцю ў звыш 200 (двесце) мільёнаў злотых.

Адначасова наглядаўся высокі тэмп прыросту прамысловай прадукцыі. Прыраўняўшы да папярэдняга, 1966 года, атрымаем 12 працэнтаў прыросту, а ў залатоўках аж 1 мільярд 330 мільёнаў злотых. У мінулым годзе прамысловая Беласточчына сваімі тэмпамі развіцця шмат выпярэджвала сярэдні ўзровень для ўсёй краіны. Штораз лепшай і больш выдатнай працай ліквідуем спрадвечную адсталасць. Гэта словы не толькі дэкларатыўныя. Амаль 60 працэнтаў прыбытку прамысловай прадукцыі прадпрыемствы дасягнулі дзякуючы больш выдатнай працы рабочых.

— Сельская гаспадарка свае планавыя заданні перавыканала на 5,8 працэнтаў. І зноў гэтыя працэнты можна пералічваць і на залатоўкі, і на дадатковыя тоны збожжа, і на штукі жывёлы. Вынікі атрымоўваюцца аптымістычныя.

Гаспадары Беластоцкага ваяводства — беручы агульна — дабіліся ў мінулым годзе ўраджаю:

жыта — 15,8 працэнтаў з 1 га
пшаніцы — 17,6 працэнтаў з 1 га
ячменю — 17,7 працэнтаў з 1 га
аўса — 15,6 працэнтаў з 1 га
бульбы — 178,0 працэнтаў з 1 га
буракоў — 339,0 працэнтаў з 1 га
сена — 42,0 працэнтаў з 1 га.

Калі разыходзіцца пра жывёлагадоўлю, дык у 1967 годзе на кожныя 100 гектараў зямельных угоддзяў выпадала:

кароў — амаль 46 штук
свіней — звыш 76 штук
авечак — амаль 21 штук
коней — амаль 15 штук.

Усе гэтыя паказальнікі — і для раслíннай прадукцыі, і для жывёлагадоўлі — шмат перавышалі вынікі з 1966 года. Коней таксама паявілася на Беласточчыне значна больш. З'ява не найлепшая, калі разыходзіцца пра эканоміку гаспадаравання, але вініць за гэта нельга толькі сялян. Больш ад іх вінаваты арганізатары механізацыі сялянскай працы. Гаспадары, змучаны бегатнёй за гуртоўскімі трактарамі, якія цяжка дастаць якраз тады, калі патрэбны, урэшце са злосцю плююць на іх, і за вялікія грошы купляюць «лысага» ці «буланага». А коні, трэба ведаць, высока цэняцца. Выкарыстоўваюць гэта некаторыя больш спрытныя сяляне і гадуюць коні проста на продаж. Між іншым і гэта павысіла сярэдні іх паказальнік для ўсяго ваяводства.

Адна сялянская сям'я (вядома, беручы сярэднюю вартасць) на працягу 1967 года дапрацавалася 83 тысяч 698 злотых даходу. Быў ён на звыш 4 тысячы злотых больш ад даходу ў 1966 годзе. Значыць, каб прадаць усё гэта, чаго селянін дабіўся ў 1967 годзе, **атрымалася б для яго амаль сямітысячная месячная зарплата.** З гэтай зарплаты селянін абавязаны адкласці на: усе падаткі, пракарміць сям'ю і жывёліну, купіць сельскагаспадарчыя прылады, пабудаваць (калі яшчэ няма) новыя будынкі і т.п. Для параўнання падам, што сярэдняя месячная зарплата рабочага ў прадпрыемствах Беласточчыны ў 1967 годзе склала суму (брута) 1757 злотых.

Варта яшчэ адзначыць, што ў мінулым годзе электрычнае святло атрымала 5885 сялянскіх сяліб у 160 вёсках, пабудавана 10 філіялаў ПОМ, 4-ры ветэрынарныя лячэбніцы, 5 агранамовак і 2 вясковыя водаправоды.

**В. Рудчык**

# ЗАРАНКА

**(З маіх успамінаў)**

Упартая думка, думка-летуценне аб дзіцячым часопісе не пакідала мяне ні на хвіліну. Што рабіць? Дзе ўзяць грошай хоць на першыя нумары? Аб матэрыяле я не бедавала. Адзін-два нумары можна запоўніць самой, а там далей мо знойдуцца людзі «добрай волі»; карэктуру, экспедыцыю таксама вазьму на сябе. Але папера, друк, клішэ... Без грошай аніяк... Нават набор — думалася — неяк зробіцца бясплатна. Наборшчыкі пры газеце нашай (я працавала адміністратаркай беларускай радыкальнай прэсы) былі свае, не ад друкарні; людзі свядомыя, ахвярныя, памаглі б... А ўсё ж без грошай не пачнеш... Гаварыла я на гэтую тэму то з адным, то з другім, але ніякай канкрэтнай рады не атрымала.

Аж раптам неспадзявана: прыехаў з Варшавы сенатар А. Уласаў і ад імя пасольскага клуба кажа: «Калі хочаце ганарова працаваць, г.зн. рэдагаваць і выдаваць беларускі дзіцячы часопіс, то наш клуб дасць вам субсідыю — 30 злотых у месяц». Хоць рада я была, але ўсё ж скрывілася: што можна зрабіць за 30 злотых? «А вы скромненька», — кажа Уласаў. «А я ж не хачу скромненька! — кажу я. — Ці гэта нашы беларускія дзеці не вартыя добрага часопіса?» Ну добра, думаю, усё ж паспрабую. А я ўжо і ўступны артыкул да першага нумару даўно мела гатовы. Супрацоўнікаў прыбывала: «Малады Дзядок» (С. Новік, ён жа Сяргей Пяюн) прысылаў вершы, апавяданні, сцэнічныя творы нават з уласнымі ілюстрацыямі і на старонках «Заранкі» змяшчаў сардэчныя лісты — адозвы да дзяцей. Гальяш Леўчык прысылаў запісы народных загадак, некаторыя ў вершаванай апрацоўцы. Міхась Машара слаў вершы і прозу. Трэба яшчэ ўспомніць У. Паўлюкоўскага (пс. «Унучак»), які прысылаў вясёлыя вершы з адпаведнымі рысункамі. Мой муж Антон Войцік перакладаў з расейскага і украінскага. Апрача спецыяльных ілюстрацый, якія прыходзілася рабіць у цынкаграфіі, іншыя рысункі, застаўкі і г.д. мела я да выбару без коштаў, бо памочнік уласніка друкарні стары Пэрловіч пазбіраў усе старыя клішэ, якія былі ў друкарні ад пачатку яе існавання. Набралася гэтага шмат, і я часта знаходзіла тое, што мне было патрэбнае.

Яшчэ перад выхадам першай кніжкі я дала абвестку ў газеце, але гэта мала памагло: падпісчыкаў не было. Тады, маючы шмат адрасоў, на якія высылаліся беларускія газеты, я выбрала адрасы найбольш свядомых падпісчыкаў, якія прысылалі карэспандэнцыі і г.д., і паслала ім пробныя нумары «Заранкі» з надрукаванай укладкай, у каторай была просьба прысылаць адрасы дзяцей, якім варта выслаць пробныя нумары. Памаленьку чытачы - падпісчыкі набіраліся. Ад трэцяй кніжкі ўжо можна было пачаць друкаваць матэрыялы, якія прысылалі самі дзеці, у аддзеле «Працы нашых чытачоў». Былі там і вершы, і апавяданні, і апісанні родных вёсак. Я цешылася, што дзеці, якія вучыліся ў польскіх школах, пісалі па-беларуску добра ды чыстай народнай мовай. Чысціня мовы ў «Заранцы» была для мяне адной з найважнейшых мэт. Маленькая субсідыя ды невялічкая колькасць падпіскі звязвалі рукі і абмяжоўвалі тыраж часопіса, які не выходзіў па-за 200 экземпляраў. Частка з гэтага ліку ішла на продаж у беларускія кнігарні, некалькі экземпляраў на абмен з польскім «Пломычкем» ды украінскім «Сьвітам дытыны». Апрача таго, ва універсітэцкую бібліятэку, бібліятэку Врублеўскіх ды Літоўскае Навуковае Таварыства. Кожны месяц высылаліся пробныя нумары на новыя адрасы. Дзеці прымалі «Заранку» з радасцю, аб чым сведчылі шматлікія мілыя лісты. (На жаль, увесь архіў «Заранкі» ў вайну загінуў). Мала таго, дзеці стараліся самі з уласных заробкаў аплаціць падпіску. Напрыклад, у вёсцы Жалюбчыкі Дзісненскага павета дзеці навучыліся спяваць валачобныя песні, пайшлі па вёсцы, і, прадаўшы сабраныя яйкі, прыслалі падпіску. У адной з кніжак «Заранкі» было змешчана апавяданне «Боцікі з глухой кра-



 

 




■ Шафёр Г. Сыгоцкі з вёскі Невіна Барова ў Бельскім павеце, едучы самаходам «Газ—69» праз вёску Праневічы, забіў трохгадовую дзяўчынку Элю Васілеўскую з той жа вёскі. Дзяўчынка папала пад самаход, калі перабягала праз вуліцу. Устаноўлена, што самаход меў няспраўныя тармазы. Шафёра арыштавалі.

■ На станцыі Чаромуха згарэў склад прадпрыемства, якое будуе чыгуначную паравазоўню. Затраты — 195 тысяч зл. Прычын пажару не ўстаноўлена.

■ Дзень пазней у вёсцы Чаромуха (Гайнаўскі павет) згарэла 6 клуняў і 2 дамы. Гэтае няшчасце датычыць шасці гаспадароў. Іх затраты — 250 тысяч злотых. Агонь хтосьці зацярушыў на панадворку Язэпа Фалінскага.

■ Дрэнна зробленае электрычнае абсталяванне было прычынай пажару хлява ў Браніслава Хмялеўскага з вёскі Скедлевіцэ, у Сакольскім павеце. На шчасце іншыя будынкі адратавалі.

■ Трагічна згінуў Ян Байка з Белавежы. Па-п'янаму ішоў ён палатном чыгуначнай дарогі і недалёка станцыі Белавежа-Палац папаў пад цягнік.

■ Язэп Самсонік з вёскі Кухмы (яму 16 год) у Беластоцкім павеце, не маючы права язды, падвозіў матацыклам Б. Сямешку (яму таксама 16 год) з Міхалова. На скрыжаванні дарог у Новай Волі матацыкліст наехаў на прыдарожны стоўбік. Пасажыр Б. Сямешка зламаў нагу.

■ Аляксандр Вашкевіч з Белавежы па-п'янаму ехаў мотапедам вуліцай Стачок у Белавежы. Там стаяў аўтобус, якім настаўнікі з Любліна прыехалі на экскурсію. А. Вашкевіч, не пануючы над мотапедам, ударыў у аўтобус. Адставілі яго ў бальніцу. Стан яго быў вельмі цяжкі.

**Вуэр**

# У гайнаўскім „ЛЕСНІКУ"

У фае гайнаўскага дома культуры «Лянік» людзі глядзяць выстаўку. Экспанаты: разьба, рэльефы, выпальванне ў дрэве, практычныя прадметы, як, напрыклад, начныя лямпачкі, усё з дрэва. Бачым тут таксама так званыя «дзівы прыроды» — натуральныя карэнні з выглядам яшчаркі, птушкі і г.д.

На выстаўцы 126 экспанатаў. І гэта плён агульнапольскага конкурсу мастакоў - аматараў драўлянай прамысловасці. Ініцыятыва конкурсу выйшла мінулай восенню ад кіраўніцтва дома культуры «Лянік» (назавем тут прозвішча кіраўніка **Цэзара Акунеўскага**), а рэалізацыя — заслуга шырэйшага круга людзей, бо актыўна ўключыўся прафсаюз драўлянай прамысловасці.

У сакавіку пачалі плысці працы з усіх гарадоў краіны. Узнагароды былі высокія. Дзве першыя па 4 тысячы зл. прыпалі **Яну Канарскаму** з Ключборка і **Уладзіславу Бараноўскаму** з Познані, другая — **Францішку Шараму** з Зялёнай Гуры, а трэцяя — **Анатолю Жукоўскаму** з Гайнаўкі.

Самы малады ўдзельнік выстаўкі мае 12 год, называецца **Збышэк Мечынскі,** з Гайнаўкі. Зрабіў прыгожую драўляную лямпачку. (вл)

Будзе вернута даўняе гандлёвае значэнне квартала Крынак, званага «Каўказ» — гэта значыць месца ў вілах вуліц Горнай, Жабінай і Беластоцкай. Узнікнуць тут гандлёвыя павільёны. Першы з павільёнаў ужо пабудаваны і адкрыты. Характарызуецца ён функцыянальнымі архітэктурнымі рысамі. Пачынаецца будаўніцтва далейшых аб'ектаў у выглядзе каскаду,

# Крынкаўскі „КАЎКАЗ"

з увагі на гарыстую мясціну. Будзе гэта мець сваё архітэктурнае хараство. Пры аказіі варта прыпомніць будаўнікам аб патрэбе азелянення. Да гэтага найляпей падыходзяць буйнарослыя таполі, якія не займаюць так многа месца, як ліпы, клёны ці бярозы нават. Прытым, таполі добра падкрэсліваюць эстэтычныя вартасці будоўлі.

У Крынках будуць пабудаваны ўсе патрэбныя для ГС-аўскага гандлю склады, як: будаўнічых матэрыялаў, мінеральных угнаенняў, апалавы склад і магазін кармоў. (ся)




**НОВЫ ДЗЕНЬ**

Прачнуўся мой родны горад —
Калыска маленства майго.
І сонца ўзышло, як і ўчора,
З-за цёмнага бору свайго.

Блакітныя росныя вочы
Блішчаць маладым хараством.
Я горда па вуліцы крочу,
Тут кожны знаёмы мне дом.

Сваімі гудкамі заводы
Спяваюць на ўсе галасы.
Спяшаюць, ідуць пешаходы
Праспектам вясенняй красы.

Ужо на румяным усходзе
Паўнеба зіхціць у святле.
Трамваі з трампарку выходзяць,
Пажар на аконным іх шкле.

Гляджу, не магу надзівіцца
На плошчы твае і сады,
Мой горад любімы, сталіца,
Прыгожы наш Мінск малады.

Па гладкай, як шкло, магістралі,
Дзе ліпы вясною цвітуць,
Нібыта блакітныя хвалі,
Машыны плывуць і плывуць.

У школу бягуць піянеры,
Ад іх маладых галасоў
Гудуць усе паркі і скверы
Сваёю вясенняй красой.

І мае не стрымаць хваляванне,
Яно ў маім сэрцы расце,
Якое прыгожае ранне
У нашых гарэзных дзяцей.

**Мікола Хведаровіч**

1. Знайдзіце ў тэксце эпітэты. Падзяліце іх на групы: а) эпітэты, якія адлюстроўваюць колеры, б) эпітэты, якія служаць да выяўлення руху, в) эпітэты, якія адлюстроўваюць пачуцці аўтара.

2. Сабярыце матэрыял да школьнай насценгазеты «Мінск — сталіца БССР».

**Біяграфія**

Мікола Хведаровіч. — Сучасны беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1904 г. у беднай сялянскай сям'і. Вядомы яго зборнікі гэта: «Вайна за мір», і «Усім сэрцам».

# Набор у беларускія ліцэі

У беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы ідзе набор вучняў. Успомненыя ліцэі далі ўжо многа высокай рангі кадры для нашай дзяржавы. Прыводзім прыклад.

Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску ўжо закончыла больш як 650 чалавек. Больш як 430 яго абсальвентаў закончылі вышэйшыя навуковыя ўстановы або яшчэ вучацца. Падобна справа выглядае з выпускнікамі беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. А вось што трэба зрабіць, каб паступіць у агульнаадукацыйныя ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы.



**На здымку беларускі ліцэй у Бельску.**

Трэба злажыць: 1) заяву (паданне), 2) аўтабіяграфію (жыцёрыс), 3) метрыку нараджэння, 4) пасведчанне школы аб тым, што з'яўляешся вучнем 8-га класа, 5) пасведчанне з 7-га класа, 6) пасведчанне аб здароўі (з найбліжэйшага пункта аховы здароўя), 7) два здымкі.

Будуць экзамены з:
1) польскай мовы
2) беларускай мовы
3) матэматыкі.

Тыя школьнікі, якія не вучыліся беларускай мовы ў пачатковай школе, будуць экзамены здаваць толькі з польскай мовы і матэматыкі. Беларускую мову будуць здаваць у снежні пасля падрыхтоўчага курса.

Выдатнікі з 7-га і 8-га класаў, гэта значыць тыя, якія маюць ацэнкі ў пасведчанні на выдатна і добра (5 і 4), могуць быць прыняты без уступных экзаменаў.

Ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю, а ў Бельскім ліцэі нават інтэрнат. Набор вучняў да ліцэяў будзе працягвацца да 20 чэрвеня.

Падаем адрасы ліцэяў:

Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4.

Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Hajnówce, ul. Wyzwolenia 5.

півы і шапка з васількоў» — пераклад з украінскага. Гутарка там ішла аб зборы і продажу лекарскіх зёлак. Дзеці зарэагавалі мамантальна: пасыпаліся лісты з запытаннямі, што рабіць, як сушыць, куды адсылаць.

Шкадуючы месца ў «Заранцы», я адказвала лістоўна і па нейкім часе пачала атрымліваць пасылачкі з зёламі. Праўда, колькасці былі малыя, часта і якасць не надзвычайная, так што прадаць было немагчыма. Але гэта мне не перашкаджала споўніць жаданне высылаючага і залічыць вартасць зёлак на падпіску «Заранкі». Цешыла гэта мяне бязмежна і дадавала энергіі. Бо, хоць гэта сумна ўспамінаць, старэйшае наша грамадзянства, асабліва віленская беларуская інтэлігенцыя, захоўвала поўную абыякавасць... Ні слова падтрымання або хоць бы крытыкі... Нічога... Чаму? Не ведаю і сёння. Толькі беларускія школы ў Латвіі ад пачатку пачалі выпісваць «Заранку» ды пісалі лісты, прысылалі школьныя фатаграфіі і наогул выказвалі зацікаўленне і мілую прыхільнасць.

У 1927 г. выйшла ўжо 9 кніжак. І тут навіна. Навіна не вясёлая. Пасольскі клуб, заняты новай перадвыбарнай кампаніяй, не лічыў патрэбным займацца гэткімі драбніцамі, як «Заранка», і спыніў субсідыю... Але я была ўпартая. Здавацца не хацела. А ўсё ж можа яшчэ пацягну неяк? І «Заранка» выходзіла далей. Не рэгулярна, з перапынкамі. Часам за два месяцы адна кніжка... А дзеці непакоіліся. «Чаму няма «Заранкі»? Калі будзе?» У 1—2 кніжцы «Заранкі» ў 1928 годзе я запрапанавала дзецям зрабіць «ланцуг падпісчыкаў», абяцаючы таму, хто прыдбае найбольшы лік падпісчыкаў, узнагароду — цікавую кніжку. Крыху дзяцей адклікнулася, але не шмат... Ці можна было вымагаць вялікай актыўнасці ад дзяцей, калі іх бацькі і наогул старэйшае грамадзянства не выказвала ніякага зацікаўлення доляй «Заранкі». У той час кожная кніжка «Заранкі», г. зн. яе друк, папера, клішэ ды брашуроўка, каштавалі каля 200 злотых. Як іх трудна было здабыць... рукі ападалі. Не хапала ўжо сілы вясці далейшую барацьбу... Здавалася, прыйшоў канец «Заранцы». Аж неспадзявана бліснула яшчэ раз надзея: тагачасны рэдактар радыкальнай газеты Серафім Татарын напісаў да свайго брата ў Амерыку (я аб гэтым не ведала) і ў красавіку 1928 года «Заранка» атрымала сабраныя там ахвярнымі беларусамі 27 долараў! З гарачай падзякай зараз у чарговай кніжцы былі надрукаваны прозвішчы ахвярадаўцаў. Далей, каб больш працягнуць існаванне часопіса, я выпускала яго раз у два месяцы. Гэтак прайшоў 1928 год. У 1929 годзе выйшла яшчэ тры кніжкі. Праз цэлы 1930 г. не ўдалося выдаць ніводнай кніжкі. Аж у 1931 годзе паўстаўшая тады Беларуская жаночая арганізацыя імя Цёткі пастанавіла даць «Заранцы» поўную дапамогу. Але гэтай дапамогі хапіла толькі на дзве кніжкі: першая выйшла ў лютым, другая — у сакавіку. У гэтых дзвюх кніжках надрукаваны твор В. Біянкі «Лясныя хаткі», якія пасля выпусцілі асобнай кніжкай. Пачалі таксама друкаваць працу М. Ільяшэвіча «Як жылі нашы продкі». Да канца надрукаваць не ўдалося, а аўтар М. Ільяшэвіч, выкладчык Віленскай беларускай гімназіі, у хуткім часе памёр.

«Заранка» згасла... Не хапіла ў нашага грамадзянства свядомасці, не хапіла зразумення, што вясці работу асветна-культурную трэба пачынаць у асяроддзі дзяцей.

У той час у Вільні выходзіў часопіс «Шлях моладзі». Яго рэдакцыя запрапанавала мне весці ў іх аддзел для малодшых чытачоў-падросткаў. Я згадзілася. На працягу двух гадоў пісала ў кожны нумар апавяданні на розныя тэмы: «Як робіцца цукар», «Соль», «Святло ад лучыны да электрычнасці», «Чаму лісце ўвосень мяняе колер» і інш.

Да выдання асобнага дзіцячага часопіса ўжо не дайшло.

Былы рэдактар «Заранкі»,
**Л. Войцікава**

---

«Заранка» выдавалася ў Вільні ў 1927—1931 гадах.

Людвіка Войцікава (Зоська Верас) і цяпар жыве ў Вільні. З Беласточчынай вяжуць яе ўспаміны дзяцінства. Тут каля Новага Двара (Дуброўскі павет) жыў яе дзед, у якога яна праводзіла кожнае лета.

Загаловак перарысаваны з першага нумару «Заранкі».



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГРАМАДСКІ ЧЫН

Жыхары вёскі Гаркавічы, што на Сакольшчыне, прынялі абавязацельства правесці рамонт школы. Яшчэ ў лютым на вясковым сходзе быў паклікаиы камітэт разбудовы школы, у склад якога ўвайшлі: Сяргей Галубовіч, Аляксандр Гончар і Мікалай Пац. Пры дапамозе солтыса Леваня Кішкеля і старшыні сельскагаспадарчага гуртка Антона Савіцкага жыхары Гаркавіч абгарадзілі школьны пляц. Выкананая праца ацэньваецца на 15 тысяч злотых. Апрача таго ўсе гаспадары вёскі ападаткаваліся па 100 зл на рамонт школы. Ужо сабрана 4 тысячы зл.

Сяляне Гаркавіч выступаюць з ініцыятываю, каб супольна з жыхарамі Крынак, Юраўлян, Горнага, Уснара, Грыбоўшчыны і Суковіч грамадскім чынам правесці рамонт дарогі, каб па ёй мог пайсці ПКС. Пры гэтым дарожным чыне жыхары Гаркавіч абяцаюць працаваць грамадска па 4—5 дзён і давезці па 20 м³ жвіру і па 20 м³ каменя.

К. Талярчык
Гаркавічы

## НА КУЛЬТУРНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

Сельскагаспадарчыя гурткі Гайнаўшчыны на сельскагаспадарчую прэсу і кніжкі, а таксама на пакупку тэлевізараў і адзення для аматарскіх калектываў аддаюць у сярэднім 40 тысяч зл у год.

Мік. Н
Гайнаўка

## СУСТРЭЧА З САЛДАТАМІ

Другая палавіна красавіка і першая палова мая былі прысвечаны на сустрэчы салдат з жыхарамі вёсак Беластоцкага павета. Такія сустрэчы адбыліся 27 красавіка на ўсіх вёсках ГРН Фальваркі Тыльвіцкія. Афіцэры правялі цікавыя размовы з жыхарамі вёсак, а на заканчэнне выслухалі вершаў школьнікаў аб нашых салдатах. Кожны афіцэр ад'ехаў з кветкамі, якія ўручылі ім дзеці.

**Мікола Краўчук**
Патока

## НОВЫ ДВОР

Асада Новы Двор (Дуброўшчына) толькі цяпер пачала аднаўляцца. Самы цэнтр, які ў мінулым служыў як месца на кірмаш — зараз засаджаны дрэўцамі, сярод якіх на сцежках з ходнікаў стаіць дзесяць лавак.

Прэзідыум ГРН, які ўзначальваецца Язэпам Стасюлевічам, таксама правёў рамонт стражацкай рамізы, дзе знайшлося месца для клуба. ГРН са сваіх надвыжак купіла ў гэты клуб за 12.300 зл тэлевізар. Новы Двор мае зараз новапабудаваную прасторную школу, агранамоўку, гандлёвыя павільёны і склад ГС-у. (мх)

## Сардэчныя тайны

Ажаніўся я рана (меў тады 18 год). У нас ужо ёсць дзіця, якое мае 2 гады. Жонка мая (таксама маладая) скончыла сярэднюю адукацыю, але пасля таго, як мы пажаніліся, перайшла на працу ў нашую грамадскую раду. Я маю толькі СПР. Працую на гаспадарцы разам з жонкай (пасля работы). Мая жонка аказалася не вельмі верная. Аднойчы я зайшоў нечакана да яе працы, а яна сядзела ў пакоі з адным працаўніком. Была вельмі вясёлая, а спаднічка выглядала як «міні». Калі я ўвайшоў і пабачыў гэтае, мяне адразу агарнула такая злосць, што, стукнуўшы яе моцна па каленях, я выбег з будынку. Тыдзень часу мы не гаварылі з жонкай. Я сказаў аб гэтым таксама жонцы гэтага супрацоўніка маёй жонкі. Толькі яго жонка, не ведаю чаму, рассмяялася. Хіба і яна такая самая, як і мая жонка, любіць чужых мужоў. Інакш не магу вытлумачыць гэтай яе рэакцыі. Таксама бывае, калі мы з жонкай пойдзем дзесьці ў госці. Яна зараз спявае (мае прыгожы голас) з іншымі, танцуе. А я не хачу такой жонкі. Не ведаю, як з ёю пастуліць. Маю прэтэнзіі да жонкі і да яе «кавалераў», раблю авантуры, але нічога не памагае. Што рабіць далей? Як паступаць?

**Міхась
з Сакольшчыны**

**«Міхась»!** Перш за ўсё пакінь непатрэбную зайздрасць. А калі яе пазбудзешся, тады напэўна ўбачыш сваю жонку вясёлаю, ветліваю, а не, як цяпер, шукаючай «кавалераў». Нічога дрэннага ў паступку тваёй жонкі на падставе твайго лісту не бачу. Відаць любяць яе за весялосць, прыгожы голас. І ты павінен толькі гэтым цешыцца, а не рабіць авантуры ёй і чужым людзям. Ты толькі асмяшаешся, вось таму і была такая рэакцыя жонкі супрацоўніка, якога ты застаў у пакоі. Яна ж працуе сярод мужчын і не раз прабывае з тым ці іншым у пакоі. І што ж тут дрэннага? Спаднічка? Выйдзі ж на вуліцу і паглядзі! Убачыш сапраўдныя «міні». Гэта ж мода. А твая ж жонка не носіць «міні», а калі ўжо седзячы на крэсле спаднічка вышэй кален, дык нічога ў тым дрэннага, ані дзіўнага. Мая парада толькі адна — пакінуць сваю дзіўную неразумную зайздрасць, а жыццё тваё будзе спакойным і прыгажэйшым.

**Сэрцайка**

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

**Гр. Петручук з Гайнаўкі пытае:** Ці можна інвалідскую пенсію замяніць на старэчую (эмерытуру). Ад 1965 г. атрымоўвае ён інвалідскую пенсію II групы. Інвалідства паўстала з іншых прычын, чымсьці выпадак пры працы. Мае ён узрост пенсіянера і 28 год працы.

**Адказ:** Закон ад 23.I.1968 г. аб агульным забеспячэнні пенсіямі працаўнікоў і іх сем'яў прадбачыць магчымасць замены інвалідскай пенсіі на старэчую пенсію (эмерытуру) асобам, якія маюць узрост пенсіянера і маюць патрэбны час працы. У даным выпадку гэтыя ўмовы споўнены.

Ці гэткая замена карысна для пенсіянера?

Інвалідская пенсія I і II групы дае ў падрахунку 65% заработнай платы пры яе высокасці да 1500 зл., 30% ад надвышкі ад 1500 да 200 зл. і 20% ад надвышкі звыш 2000 зл. Адпаведныя даныя для старэчай пенсіі дае ў падрахунку 80% да 1500 зл., 55% ад надвышкі ад 1500—2000 зл. і 25% ад надвышкі звыш 2000 зл.

Да інвалідскай пенсіі далічваецца для тых, што працавалі звыш 5 год, 0,5% ад заработнай платы, аднак не больш чымсьці за 20 год. Да старэчай пенсіі далічваецца 1% за кожны год звыш 20 год працы, аднак не больш, чымсьці за 10 год.

У даным выпадку замена пенсіі на эмерытуру была б карысна, таму што асноўная пенсія была б значна вышэйшая, а дадатак нязначна меншы.

## У ЛЯЎКОЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Фота : Янка Цялушэцкі

## НАРАДА ПАЖАРНІКАЎ

Прышла вясна, а разам з ёю вялікая небяспека пажараў. Таму ў апошнюю нядзелю красавіка Павятовая каманда пажарнікаў у Беластоку арганізавала нараду для камендантаў адзінак ОСП Беластоцкага павета. На гэтай нарадзе была абмеркавана справа прадухілення пажараў, а таксама заданні пажарнікаў. Канферэнцыю вёў камендант павятовай адзінкі ОСП грам. Ніткевіч. Справа гэтая вельмі важная, і таму на канферэнцыю прыбыў намеснік старшыні Павятовай рады нарадовай у Беластоку грам. Алексін.

Гаварылася на гэтай канферэнцыі між іншым аб грамадскіх чынах, якія ў нашых вёсках вельмі часта арганізуюцца пажарнікамі. Напрыклад, у вёсцы Студзянкі пажарнікі перабудавалі рамізу, дзе цяпер знаходзяцца пажарныя машыны і святліца, у якой моладзь і старэйшыя культурна праводзяць вольныя хвіліны.

К. Мік.
Студзянкі

## ДУБРОВА

Дзякуючы таму, што маленькае мястэчка Дуброва Беластоцкая авансавала да рангу павета, пачало ўсё тут змяняцца. Будуюцца будынкі для адміністрацыі, у тым ліку для павятовых улад і сядзібы гарадской рады. У цэнтры мястэчка, дзе калісьці быў рынак, зараз прыгожы скверык. Вялікай справай для Дубровы было адкрыццё новай чыгункі, якая спалучыла яе з Беластокам, Аўгустовам, Сувалкамі, з шырокім светам.

Незадоўга будуць аддадзены ў карыстанне дзве вялікія інвестыцыі: ПОМ і малачарня. (мх)

---

адкінута. На палубе прабоінаў няма. Бартоў лодкі не відна.

— Як чуецеся? — пытаецца Абст.

— Добра, шэф. Дасканала. Навокал так прыгожа. Быццам у сне. Я вось што зраблю: спушчуся на палубу!

— Леанард, я спушчу вас на тры мінуты, — гаворыць Абст. — Загляньце ў рубачны люк!

— Зраблю, шэф, — адказвае вадалаз. — За мяне не хвалюйцеся. Дыхаецца лёгка, усё ідзе добра.

Нейкі час у дынаміку чуецца толькі цяжкае дыханне Леанарда. Але вось зноў гучыць яго голас:

— Шэф, я ўжо там!

— Дзе? — крычыць Абст. — Няўжо спусціліся ў люк? Вы ў баявой рубцы?

— У цэнтральным пасту, шэф!

— Асцярожна, Леанард! Ідзіце назад!

— Хвілінку... Падыйшоў да дзвярэй камандзірскай каюты. І дзверы адчынены! Я ўбачыў сейф.

— Хапайце яго, — крычыць Абст, хапайце і выходзьце з лодкі!

— Узяў скрынку, — дакладвае Леанард. — Цяжкая, чорт, хоць і малая. Цягну яе да трапа...

І раптам усе нямеюць.

Вадалаз пачынае спяваць!

У наступіўшай цішыні дзіка гучыць яго голас.

Ах, мой мілы Аўгустын, Аўгустын!

Усё прайшло, усё прайшло...

Шланг і сігнальны канец выходзяць з вады свабодна. Гэта значыць: вадалаз карабкаецца ўверх. Мо ўсё абыдзецца.

Секунды бягуць. Дынамік гучыць. Але вадалаз ужо не спявае. Тэлефон даносіць хаос гукаў.

— Пачакайце, дайце адпачыць! — урэшце ледзь даносіцца з дынаміка.

Глюк спыняе трос.

— Адпачніце, Леанард, — гаворыць Абст. — Мацней трымайце скрынку!

— Трымаю... О, чорт! Яна ўпала. Я ўпусціў яе, шэф, яна грохнулася ў лодку!

— Збярыцеся з сіламі — і наверх! — камандуе Абст.

— Глупства, — хрыпіць дынамік. — Зараз я пасплю крыху, потым спушчуся за ёю...

— Леанард, выходзьце наверх! — крычыць Абст. Адказу няма.

Абст спяшае да Глюка, хапаецца за сігнальны канец. Трос не паддаецца.

— Леанард, за што вы там трымаецеся? Неадкладна выходзьце наверх! Чуеце мяне, Леанард?

Дынамік маўчыць.

— Цягнем! — камандуе Абст. — Вальтэр, бярыцеся за шланг!

Але трос не паддаецца.

...у працягу наступных пяці гадзін Абст і яго памочнікі дарма намагаліся выцягнуць вадалаза, які застраг у затопленай лодцы.

Потым Глюк нырнуў і на глыбіні дваццаць пяць метраў перарэзаў трос і гумовы шланг. Усё было кончана. «Віпера» прыняла яшчэ адну ахвяру.

**(Працяг будзе)**

---

Ці Вы ўжо выпісалі Ніву на III квартал?

---

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Romanca na trąbkę'' (czeski), 4—5. ,,Na froncie wojny domowej'' (radz.), 6—7. ,,10 małych Indian'' (angl.), 8—9.

**Дубіны**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Mętna woda'' (węgierski), 8—9.

**Нараўка**

,,Grymasy'' (węgierski), ,,Kaukazka branka'' (radz.), 5—9.

**Чыжы**

,,Czterej pancerni i pies'' (polski), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Fifi piórko'' (franc.), ,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), 5—9.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

,,Dr Fabrizus działa'' (NRD), ,,Po wielkiej burzy'' (szwajcarski), 5—9.

**Райск**

,,Na tropach szpiega'' (radz.), 5—9.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Siódmy przysięgły'' (franc.), ,,10 małych Indian'' (angl.), 4—7.

**Міхалова**

,,Przybycie tytanów'' (włoski), 4—5. ,,Droga nad morze'' (bułg.) 6—7. ,,Byłam głupią dziewczyną'' (węgierski), 8—9.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Dwa żebra Adama'' (polski), 4—5. ,,Poranki młodości'' (rumuński), 6—7. ,,Na los szczęścia Baltazarze'' (franc.), 8—9.

**Шудзялава**

,,Mroźny poranek'' (radz.), ,,Mętna woda'' (węgierski), 5—9.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Wątła nić'' (USA), ,,Człowiek, który zabił Liberty Valancea'' (USA), 5—9.

**Новы Двор**

,,Jowita'' (polski), ,,Chewzburska ballada'' (radz.), 8—9.

**Ліпск**

,,Sami swoi'' (polski), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 8—9.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7066

Марк Твэн

# Парада бацькам

Гумарэска

Што можа больш пагібельна адбіцца на дысцыпліне, чым паблажлівасць бацькоў, калі ім гарачаць дзеці? Калі вы выпадкова дапусцілі памылку або перабольшанне ў прысутнасці дзяцей, не дазваляйце ім папраўляць вас. Ваша праўда ці не ваша — упарта адстойвайце сваю беспамылковасць і адразу ж падаўляйце (сілаю, калі трэба) любыя прыкметы ранняга скептыцызму. Як толькі вы дазволіце дзецям узяць пад сумненне ваша ўсёведанне, вы страціце іх павагу і дапаможаце развіць у іх зазнайства...

Я дакладна памятаю, як мой бацька, адзін з самых суровых і паслядоўных прыхільнікаў дысцыпліны, пакараў мяне за празмерную ганарлівасць, калі я пачаў аспрэчваць яго неабдуманую заўвагу, што дваццаць у пяць будзе шэсцьдзесят два з паловай.

— Бач ты, — сказаў ён, панура гледзячы на мяне паверх акуляраў, — думаеш, што надта вучоны, а бацька нічога не ведае? А ну, хадзі сюды!

Запрашэнне гучала гэтак настойліва, што адхіліць яго было проста немагчыма, і праз некалькі хвілін я ляжаў у самай што ні на ёсць ганебнай позе ўпоперак яго левага калена, а яго левая рука моцна абхапіла маю галаву.

Я не бачыў, як ён дэманстраваў другой рукою дакладнасць сваіх матэматычных ведаў на самай вялікай латцы маіх штаноў, але я адчуваў, што стары мае рацыю. Калі ж ён, пазбавіўшы мяне ўсялякай веры ў табліцу множання, спытаў, колькі будзе дваццаць у пяць, я паўтараў праз слёзы: шэсцьдзесят два з паловай.

— То-та ж, сказаў ён, — я навучу цябе паважаць бацьку! Дваццаць разоў на дзень лупцаваць буду, а навучу, А цяпер ідзі напаі коней, ды варушыся хутчэй!

Стары джэнтльмен патрабаваў, каб да яго ставіліся з павагай да той пары, пакуль яго не скруціў рэматус, але і тады я па-ранейшаму глыбока паважаў яго і ўсё не мог паверыць, што ён назаўсёды страціў сілу...

Калі вы загадваеце хлопцу зрабіць штосьці, а ён пытае: «Навошта?», рэкамендуецца мякка, але рашуча даць яму аплявуху, каб ён зразумеў, «навошта». Гэтак ён хутчэй навучыцца ахвотна бегчы па першаму загаду.

Дапытлівасць — адна з самых агідных рыс дзіцячага характару. Калі вы гэткі ненацярожны, што спрабуеце задаволіць іх ненажэрную цікаўнасць, будзьце гатовы адмовіцца ад бацькоўскай улады, бо яны загоняць вас у тупік сваімі пытаннямі па дзесяць разоў на дзень і праз тыдзень канчаткова страціць веру ў вашу здольнасць разважаць.

Звычайнае дзіця — гэта цэлы зборнік невырашальных загадак. На якую пашану могуць разлічваць бацькі, калі іх можна падлавіць на недасведчанасці ў двух выпадках з трох! Таму ёсць сэнс час ад часу адказваць на якое-небудзь лёгкае пытанне, каб пераканаць дзяцей у тым, што вы можаце гэта зрабіць, калі захочаце. Калі яны прычэпяцца з чым-небудзь цяжэйшым, можна адказаць: «А табе што да гэтага?» Або проста: «Заткніся!» Гэтак вы будзеце выхоўваць у дзяцей незалежнасць, упэўненасць у сабе і вытрымку, якая пазбавіць іх ад спакусы разрэзаць вам чэрап і даведацца, як можна пры такіх вялікіх ведах таіць гэта ўсё пра сабе.

Пераклаў Яўген Дубовік

# НІЎКА



У ПОРЦЕ.

### РАЗВЕДЧЫК

— Радавы Іваноў, чаму ў страі не чуваць вашай нагі?

— Таварыш старшыня, я ж разведчык, мне трэба хадзіць ціха і бясшумна.

— Рыгор Корчык, па прафесіі — малодшы рэферэнт спулдзельні «Жаночы Туфлёк». Змучаны гарадскім жыццём задумаў я правесці свой водпуск у вёсцы.

### ЛІШНЯЕ ПЫТАННЕ

— Джока, — гаворыць бацька свайму пяцігадоваму сыну, — сёння ты будзеш мець сястрычку. Што ты скажаш, га?

— А што я магу сказаць, калі вы паставілі мяне перад фактам, які ўжо адбыўся?

### У МЕНДЗЯЛЕЕВА

Да Мендзялеева зайшоў малады хімік. Убачыўшы вялікага вучонага, ён так расхваляваўся, што не мог вымавіць ні слова. Мендзялееў жэстам запрасіў яго сесці і спытаў:

— З кім маю гонар маўчаць?

### ПЯЧКУР - ПЕРАСТРАХОЎШЧЫК

— Ад каго ты так уцякаеш? — запытала Плотка ў Печкура. — Можа шчупак блізка?

— Ад чарвяка!

— Дык ты ж яго праглынуў бы.

— Так, каб ведаў, што ён без кручка. А то яшчэ напорашся.

### ПАРАСЯ

Маці дакарае дзіця.

— Ты сапраўднае парася. увесь запэцкаўся. Ведаеш што такое парася?

— Але ж, мама, гэта сын свінні.

### ЧАМУ

— Чаму ты радуешся?

— Мяне тата набіў.

— Дык хіба трэба весяліцца?

— А як жа? Вось прыйдзе мама, я раскажу ёй пра гэта, і яна, як заўсёды, расправіцца з татам.

### АРГУМЕНТ

Маці таворыць сыну, які не хоча вучыць англійскую мову.

— Ты ведаеш, сыне, што амаль палова зямнога шара вучыць гэтую мову.

— Добра мама. Але ж навошта яшчэ і мне вучыць: цэлая палавіна зямлі — хіба гэтага не дастаткова?

BILETY KOLEJOWE

BILETY KINO TEATR

ORBIS

ВЫ КУПІЛІ БІЛЕТ У ЦЫРК, А НЕ НА ЦЯГНІК!!!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Грыко з Беластока і Ірэны Банцарэвіч з калёніі Фальваркі Тыльвіцкія, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.




# CYGANERIA

Słowa polskie: Z. Stawecki
Muzyka: G. Mouzakis

Znają nas knajpki i koty w zaułkach,
letnią nocą lubimy włóczyć się.
I zgubić nas łatwo i łatwo odszukać,
śmiech przed nami biegnie i gitary dźwięk.

Już północ,
a nam się wcale nie chce spać.
Wysoka północ zegarów graniem wita nas.
Znów dzień przeminął,
dał może mniej niż pragnął dać,
czerwone wino będziemy sączyć aż po brzask.

Nasze piosenki zbierane z ulicy
mają wszystko, co nam przynosi dzień.
Szczyptę radości, kropelkę goryczy,
wiele barw miłości i zawodu cień.

Już późno,
cyganie młodości wielkich miast,
wysoka północ pod nogi rzuca tyle gwiazd,
znów dzień przeminął,
nie wszystkim los wygrany padł,
czerwone wino będziemy sączyć aż po brzask.

Już późno,
a nam ta noc nie daje spać,
wysoka północ cygańską drogą wiedzie nas.
Znów dzień przeminął,
nie wszystkim jutro szczęście da,
czerwone wino będziemy sączyć aż do dna.




### Як Рыв'ер стаў наркаманам

Роўна дзесяць гадоў назад пачалася бліскучая кар'ера веласіпедыста Рыв'ера. Прыгожы, стройны хлопец быў кумірам французскіх балельшчыкаў. Асабліва пасля таго, як на славутым трэку «Вігарэлі» ў Мілане яму ўдалося пабіць сусветны рэкорд у гадзінnай яздзе, які належаў італьянцу Эрколе Балдзіне. Гэта было ў 1958 годзе, і тады Рыжэ Рыв'еру толькі што споўнілася дваццаць тры гады.

Цяпер яму трыццаць два. Нядаўна ён паўстаў у Сен-Эт'ене перад судом як наркаман. Разам з Рыв'ерам судзіліся яшчэ трое ўрачоў, і зноў злавеснае слоўца «допінг» замільгала на старонках французскай прэсы.

Як жа Рыв'ер стаў наркаманам?

Стаўшы ў 1958 годзе веласіпедыстам - прафесіяналам, Рыв'ер пачаў ужываць узбуджальныя наркатычныя сродкі. Прымаў ён допінг і перад устанаўленнем свайго рэкорду. У 1960 годзе Рыв'ер быў фаварытам веланонкі «Тур дэ Франс». Ужо тады ён пачаў вазіць з сабой ледзь не цэлую аптэку. І вось вынік: знясілены допінгам арганізм не вытрымаў перанапружання, і знясілены фаварыт на адным з участкаў трасы Тура зваліўся ў бездань. Рыв'ер атрымаў пашкоджанне пазванка. Цяпер ён наркотыкамі супакойвае боль і адчай, а ўрачы працягваюць даваць яму рэцэпты.

Суд у Сен-Эт'ене прыгаварыў Рыжэ Рыв'ера і трох урачоў кожнага да штрафу ў 200 франкаў..




Каб апраўдацца, спяшаецца абвінаваціць суседа ў тым жа самым, у чым ён збіраецца абвінаваціць цябе.